# Беларускі калекцыянер

№19 снежань 1999г. Кошт свабодны




Беларускі плакат Саюза беларускай моладзі 1943 год з калекцыі Браніслава Зданевіча

Інфармацыя да пошуку

## Лётарэя

У першы дзень розыгрышу Першае бліскавічнае лётарэі БСП у г. Менску выйгралі: Трахімовіч, удава-пенсіянэрка - 40 райхсмарак, Ніхіеўскі Адвард, работнік аўтарамонтнага заводу - 40 райхсмарак, Дзеравяга Зьмітра, кладаўшчыка БСП 100 - райхсмарак

Лётарэйная камісія БСП.

*Абвестка ў «Беларускай газэце» 1943г.*

## Аб'ява

Куплю шаўроны: СБМ (Саюза беларускай моладзі), БВВ (Беларускага вызвольнага войска), ЗБВ (Згуртаванне беларускіх вайскоўцаў) і інш.

Пісаць на адрас рэдакцыі Зарэмбе.

Пачатак на 2 стар.

наддрукоўкі. Польская пошта ў 1919 годзе (17.01 і 27.01) выпусціла дзве серыі марак з аднолькавымі малюнкамі і аднолькавымі наміналамі для рэгіёнаў Польшчы, былых раней пад нямецкай і аўстрыйскай акупацыяй, у рознай валюце. Для першага рэгіёну ў марка-пфенігавай, для другога - ў крона-гелеравай.

Уся вышэй пададзеная інфармацыя аб выданні слуцкіх марак і была пачатковым пунктам у маіх пошуках гэтых марак, якіх-небудзь звестак, якія б дапоўнілі тое, што ўжо вядома. Доўгі час пошукі іх і саміх марак былі безвыніковыя. Дапамог выпадак. У 1998 годзе ў Польшчы на V-й навуковай канферэнцыі Польскай Акадэміі Філатэлістыкі мы з калегам Вітольдам Жураўскім зайшлі ў Лодзі ў невялічкую філатэлістычную краму. І менавіта там знайшлі васьміблок адной слуцкай маркі, і таксама адну асобную. Рашэнне прыйшло тут жа: тэрмінова купіць гэтыя маркі, нягледзячы на іх кошт і характар выдання – непаштовы, спекулятыўны ці яшчэ які-небудзь. Для мяне як філатэліста, што цікавіцца беларуская тэматыкай, было важна іншае – гэтыя маркі, нягледзячы, паўтаруся, на характар выпуску, з'яўляюцца дакументамі нейкага эпізоду ў гісторыі Беларусі, у гісторыі беларускай філатэліі. Гэта было для мяне важным і вызначальным. Пасля вяртання ў Мінск, я паказаў свае знаходкі калегам-філатэлістам. Маркі выклікалі і сенсацыю, і цікавасць, і дыскусію. Праявілі да іх цікавасць і супрацоўнікі музеяў (фота 5).


Фота 5

Наддрукоўкі на марках, якія набыты ў Лодзі, некалькі адрозніваюцца ад апісаных у "ППЗ"і ў каталогу Б.Павука. На марках, апісаных у "ППЗ", новы намінал змешчаны над Пагоняй і ён двайны "25 25" ці "50 50", а на марках, купленых у Лодзі, намінал змешчаны над Пагоняй і ён адзінарны – "50" па цэнтру. Гэта наддрукоўка нідзе не апісана.

Але гэта было не галоўнае адкрыццё ў маіх даследаваннях. Відавочна, ад першых згадак пра слуцкія маркі ў 1921 годзе і па сённяшні дзень, як і ў "ППЗ", і ў каталогу Б.Павука, і ва ўсіх іншых матэрыялах пра слуцкія маркі, ёсць істотная памылка. Усюды наддрукоўка "Ч.Р.Сл." расшыфроўваецца як "Надзвычайная Рада Случчыны". Але гэта расшыфроўка памылковая. У беларускай мове няма слова "Чрезвычайны", гэта расейскае слова. Ёсць беларускае слова "Надзвычайны", тады наддрукоўка павінна была б выглядаць так: "Н.Р.Сл." – "Надзвычайная Рада Случчыны". Аднак ёсць не "Н.Р.Сл.", а "Ч.Р.Сл.", а карыстацца расейскай мовай у той час паўстанцы проста не маглі. Значыць пад літарай "Ч" у наддрукоўцы хаваецца нешта іншае. Аказалася, мае сумненні мелі пад сабой глебу. Як ужо апавядалася вышэй, за гады СССР пра Слуцкае паўстанне гаварылася мала, а калі гаварылася, то толькі як пра бандытызм. Архіўныя дакументы, захаваныя з тых часоў, былі даступны не ўсім. Толькі ў сярэдзіне 90-х гадоў з'явіліся ў друку першыя публікацыі, звязаныя са слуцкімі падзеямі – успаміны ўдзельнікаў, дакументацыя і г.д. І вось у "Спадчыне" №1 за 1998 год з'явіліся ўспаміны ўдзельніка слуцкіх падзей Ю.Лістапада, напісаныя ім яшчэ 20-я гады. З іх даведваемся, што 14-15 лістапада 1920 года адбыўся з'езд, на якім была выбрана Часовая Рада Случчыны. А гэта значыць, што не было ў гісторыі слуцкага паўстання такога воргану кіравання, як "Чрезвычайная (Надзвычайная) Рада Случчыны", а была – "Часовая Рада Случчыны". Аб чым сёння сведчаць дакументы тых гадоў, на якіх захавалася пячатка Рады (фота 6). Тады наддрукоўка на слуцкіх


Фота 6

марках – "Ч.Р.Сл." расшыфроўваецца ў беларускім гучанні як "Часовая Рада Случчыны". Што і адпавядае гістарычнай праўдзе. Паведамленні ў "ППЗ" за 1935 і 1966 г., у каталогу Б.Павука і іншых выданнях пра тое, што гэта маркі Надзвычайнай (NADZWYCZAJNEJ) – Чрезвычайнай Рады Случчыны трэба лічыць ПАМЫЛКАЙ. Магчыма памылка была ўжо ў паведамленні ў артыкуле ў часопісе "Polski filatelista" за 1921 праз няведанне беларускай мовы.

Калі Саюз Польскіх філатэлістаў у далейшым вырашыць перавыдаць "ППЗ", то памылка ў расшыфроўцы наддрукоўкі на слуцкіх марках павінна быць выпраўлена, а таксама павінна быць апісана марка з наддрукоўкай адзінкавага "50" унізе пад Пагоняй. На жаль, у успамінах Ю.Лістапада няма ні слова пра маркі. Можа гэта выходзіць з факту, што Рада не паспела выпусціць гэтыя маркі ў Слуцку. Ю.Лістапад у сваіх успамінах піша, што Рада Случчыны ўжо 24.11.1920 была вымушана пад націскам расейскіх войск разам з паўстанцамі пакінуць Слуцк і абсталявацца ў мястэчку Семежава - каля 40км на захад ад Слуцка (фота 7). Але і тут Рада доўга не затрымалася. Праз нейкі час яна апынулася ў Баранавічах. І тут пачынаецца яшчэ адна невядомая старонка гісторыі слуцкіх марак – "баранавіцкая".


Фота 7

На паказанай у "ППЗ-66" паштовай картцы бачыцца паштовы штэмпель "Баранавічы 21.121" (BARANOWCZE *B*21.1.21). Гаворыць гэта аб тым, што ўжо ў студзені 1921 года слуцкія маркі былі ў распараджэнні Рады. Можна ўявіць , што ў снежні 1920 ці ў пачатку студзеня 1921 года нехта з сябгоў Рады быў натхнёны ідэяй выпусціць маркі. Для гэтага лягчэй за ўсё было зрабіць наддрукоўкі на польскіх марках. Вядома ж, слуцкія маркі былі выраблены без дазволу польскіх паштовых улад, але той ці тыя, хто ажыццявіў ідэю выпуску слуцкіх марак, жадалі прыдаць ім паштовы характар. Відаць таму з Баранавіч былі адасланы на адрас вядомай філатэлістычнай фірмы братоў Зенфф у Лейпцыгу лісты, аплочаныя польскімі і "слуцкімі" маркамі адначасова. Выяву такога замоўнага ліста адпраўленага 3 лютага 1921 года з Баранавіч у Лейпцыг са штэмпелем варшаўскай цэнзуры, змясціла ў №2(17) за 1998 год газета "Беларускі калекцыянер", праўда, без усякіх тлумачэнняў (фота 8). Магчыма, што дзесьці за межамі Беларусі, у калекцыі якога-небудзь філатэліста, захоўваюцца і іншыя лісты, накіраваныя ў вядомыя філатэлістычныя фірмы таго часу з Баранавіч – Іверу, Цумштэйну, Гібонсу, Скоту – аплачаныя слуцкімі маркамі. І магчыма з часам мы даведаемся пра гэта.


Фота 8

Выданне Часовай Рады Случчыны можна далучаць да выданняў фантазійных, непаштовых, можна нават да спекулятыўных. Для філатэлістаў па-за Беларуссю гісторыя гэтага выдання не вельмі ўжо цікавая і прываблівая, ня-

Працяг на 4 стар.

Пачатак на 3 стар.

вартая згуба часу на даследванні і пошукі. Аднак для беларускіх філатэлістаў, што цікавяцца гісторыяй сваёй краіны і сваёй філатэліі, любыя звесткі пра гэта выданне з'яўляюцца каштоўнымі .

Слуцкі збройны чын і раскрыццё таямніцы выдання слуцкіх марак – гэта цаглінка ў гісторыі Беларусі, гісторыі беларускай філатэліі, якая яшчэ захоўвае шмат таямніцаў і чакае сваіх адкрывацеляў.

***Леў Коласаў***

P.S. да артыкула.

Прайшло больш за 75 гадоў пасля слуцкіх падзей, але гісторыя марак, звязаная з гэтымі падзеямі, так і не раскрыта да канца. А калі быць дакладным, то гісторыі выпуску яшчэ няма, ёсць толькі адрывістыя звесткі. Асобныя з іх не падмацаваныя дакументальна. На жаль, гісторыкі, якія вывучаюць і апісваюць ў апошнія гады слуцкія падзеі, факт існавання марак Часовай Рады Случчыны не падцвердзілі, а можа палічылі гэта неістотным на фоне падзей тых часоў. Будзем спадзявацца, што гэты прагал будзе запоўнены. Хачу звярнуцца з просьбай да беларускіх філатэлістаў і іх калегаў за мяжой (а ў мяне ёсць звесткі, што ў філатэлістаў Польшчы ў калекцыях ёсць слуцкія выпускі) – калі маеце якія-небудзь звесткі пра слуцкі выпуск, або ёсць у калекцыях лісты, аплачаныя гэтымі маркамі, ці асобныя маркі з кляйменнем – паведаміце пра гэта аўтару гэтых радкоў, дапаможыце раскрыць таямніцу слуцкіх марак.

*Л.К.*


















## Білеты МММ

Нягледзячы на цяжкае эканамічнае і экалагічнае становішча на Беларусі, да нас па ранейшаму на сталае жыхарства едуць рускія. Нядаўна ў мяне з'явіўся новы сусед, былы расейскі вайсковец, маёр-дэсантнік, які некалі служыў у нашым горадзе Віцебску. Даведаўшыся пра маё захапленне баністыкай, ён падарыў мне цэлы стос білетаў славутага маскоўскага МММ.

Думаю, што чытачам "Беларускага калекцыянера" будзе цікава даведацца, як гэтыя білеты выглядаюць. Дасылаю некалькі асобнікаў для ўзору. Хачу адзначыць, што якасць выканання білетаў вельмі добрая. Ёсць нават вадзяныя знакі.

Калекцыянер мятлушак Маўродзі значна ўзбагаціў расейскую баністыку, пакінуўшы рускім замест іх грошай прыгожыя квіткі са сваім партрэтам.

***А. Кананові ч г. Віцебск***




### Слонім не забывае Ларысу Геніюш

Сяргей Чыгрын у Слоніме ў прыватным парадку выдаў паштоўку, прысвечаную 15-годдзю з'дня смерці вялікай беларускай паэтэсы і пакутніцы Ларысы Геніюш. Трэба сказаць, што ўлады сёлета ні адным добрым словам не згадалі пра маці ўсіх сведамых беларусаў. Ім не да таго.




Канверт, дасланы з польскага горада Лодзь спадаром Вітольдам Жураўскім, прысвечаны 775 - годдзю беларускага горада Нясвіжа.

# Навінкі з Маладзечна

**Выдавец Міхась Казлоўскі з Маладзечна ў 1999 годзе выдаў чарговую серыю паштовак прысвечаную выдатным дзеячам Беларусі**



Уладзімір Жылка
(1900-1933)

Уладзімір Жылка - (1900 - 1933) - беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся на Нясвіжчыне. Вучыўся на гістарычным факультэце Пражскага універсітэта. Аўтар зборнікаў вершаў «На ростанях», «Уяўленне», «З палёў Заходняй Беларусі». Памёр у горадзе Уржум (Расія).

1999 г. Маладзечна.
Мастак С. Шусьціцкі
выдавец М. Казлоўскі



Уладзімір Дубоўка
(1900-1976)

Уладзімір Дубоўка - (1900-1976) - беларускі паэт, празаік, перакладчык. Нарадзіўся на Пастаўшчыне. Скончыў Літаратурны інстытут В. Брусава. Аўтар зборнікаў вершаў «Credo», Наля», «Трысцё», «Палеская рапсодыя» і інш. Памёр у Маскве.

1999 г. Маладзечна.
Мастак С. Шусьціцкі
выдавец М. Казлоўскі




1998 г. Маладзечна.
Мастак С. Шусьціцкі
выдавец М. Казлоўскі



1998 г. Маладзечна.
Мастак С. Шусьціцкі
выдавец М. Казлоўскі



Алесь Гарун
(1887-1920)

Алесь Гарун (Прушынскі) - (1887-1920) - беларускі паэт і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Менску. Адзін з актыўных удзельнікаў беларускага нацыянальнавызваленчага руху. Аўтар зборніка вершаў «Матчын дар». Памёр у Кракаве.

1999 г. Маладзечна.
Мастак С. Шусьціцкі
выдавец М. Казлоўскі

## Кожная купленая паштоўка - гэта ўклад у нацыянальнае Адраджэнне

- менавіта такі надпіс прысутнічае на кожнай з гэтых паштовак.




Квіток юбілейнай латарэі з Маладзечна




Уладзімір Караткевіч
1998 г. Маладзечна.
Мастак Ю. Герасіменка-Жызнеўскі
выдавец М. Казлоўскі

# БЕЛАРУСКІЯ ЗНАЧКІ З КАКТУСАМІ

Цікавай справай з'яўляецца калекцыянаванне кактусаў і іншых сукулентаў. На Беларусі ёсць клубы кактусаводаў. Аднаму з старэйшых – Гомельскаму народнаму клубу аматараў кактусаў "Лафафора" споўнілась 26 год.


7


2


1

Тое, што ў краіне ёсць людзі, якія калекцыянуюць кактусы, гаворыць аб наяўнасці пэўнага ўзроўню культуры і дабрабыту.

Вялікай перашкодай кактусаводству з'яўляўся жалезны занавес. Але цяпер, нягледзячы на яго знікненне, назіраецца рэгрэс, звязаны з рэзкім зніжэннем даходаў насельніцтва ў апошнія гады.

Паралельна з вырошчваннем і збіраннем жывых раслін калекцыянуюцца афішы, кнігі, часопісы, паштоўкі, маркі, экслібрысы, канверты, медалі, значкі з кактуснай тэматыкай. На правах аўтара эскізаў прадстаўляю значкі гомельскага клуба "Лафафора".


4

*Уладзімір Шыцікаў – старшыня Гомельскага клуба "Лафафора"*

| № п/п | Год выдання | Мастак, майстар | З якой нагоды | Колькасць экземпляраў | Матэрыял, спосаб вырабу, пакрыццё |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 1978 | Расія, Палех Н. Лапашін | Юбілейны. 5 год клубу | 17 | Лакавая мініяцюра |
| 2 | 1980 | Ф. Шварцман | Секцыя аматараў сукулентаў | 200<br>3 | Медзь, штампоўка, аксідзіраванне<br>Белы метал, штампоўка, чарненне |
| 3 | 1981 | Ф. Шварцман | членскі значок | 105<br>2 | Медзь, штампоўка, аксідзіраванне<br>Белы метал, штампоўка, чарненне |
| 4 | 1983 | Ф. Шварцман | Юбілейны. 10 год клубу | 80 | Медзь, штампоўка, аксідзіраванне |
| 5 | 1985 | У.Зуйкоў | 15 выставаў кактусаў | 100<br>1 | Медзь, штампоўка, аксідзіраванне<br>Белы метал, штампоўка, чарненне |
| 6 | 1987 | Ю.Мядзведзяў | 20 выставаў кактусаў | 100<br>1 | Медзь, штампоўка, аксідзіраванне<br>Алюміній |
| 7 | 1988 | Ю.Калінін | Юбілейны. 15 год клубу | 100 | Медзь, штампоўка, аксідзіраванне |


5


6


3

# ЛАТАРЭІ ВІЦЕБСКА

У №2(17) "Беларускага калекцыянера" надрукаваны матэрыял А.Сярожкіна аб латарэйных квітках беларускіх гарадоў. Аўтар апісвае выпускі Воршы, Маладзечна і Светлагорска. Дадам у гэты спісак і выпускі Віцебска.

Два з іх зроблены рэдакцыяй гарадской газеты "Віцьбічы". Першы раз у 1992 годзе. Ен друкаваўся ў газеце, чытачы выразалі квіток і адзначалі ў рэдакцыі (нумар і пячатка). На пярэднім баку квітка намаляваны віцебская ратуша, тэатр ім. Я.Коласа, мост праз Заходнюю Дзвіну, гатэль "Віцебск", зроблен надпіс па-руску: "Лотерейный билет городской газеты "Витьбичи" цена 50 копеек". На адваротным баку намаляваны старажытны герб Віцебска – Пагоня. Памеры квітка 105 на 60 мм.

Другі выпуск зроблен у 1992 (тыраж быў у пачатку 1993 года). На гэты раз квіток надрукаваны тыпаграфскім спосабам, у некалькі колераў. Малюнак выканан у старажытным класічным стылі пачатку стагоддзя. Надпісы тыя ж, памеры таксама.

У 1991 годзе камітэт па фізічнай культуры і спорту Віцебскага гарвыканкама і аддзел культуры гарвыканкама, абласны савет таварыства "Здароў'е" выпусцілі спартыўна-рэчавую латарэю. Як напісана на пярэднім баку квітка, грошы на яе правядзенне пойдуць для стварэння культурнай і спартыўна-аздараўленчай базы. Памер квітка і яго выгляд вельмі падобныя да рэспубліканскіх выпускаў. Тыраж прайшоў 21 снежня 1991 года.

У 1992 ці 1993 годзе прайшоў тыраж імгненнай латарэі Таварыства Чырвонага крыжа Віцебскай вобласці. На аднабаковым квітку ў правым баку намалявана эмблема таварыства, на левым дзве фразы: "Благотворительная лотерея. Цена 25 руб." і "Спасибо за чуткость к человеческим судьбам".

Мне вядома і аб латарэі, якую ў канцы 80-х гадоў правялі ў Віцебскім тэхнікуме сувязі. Квіток яе быў у маей калекцыі латарэйных квіткоў.

***Аркадзь Падлінскі, Віцебск***

*P.S. Усе апісаныя квіткі маю ў абмене. Гатоў іх абмяняць на такія ж беларускіх гарадоў або гарадоў былога СССР. (210009, Віцебск-9, да запатрабавання, Падлінскаму А.)*

У мінулым 18 нумары нашай газеты з-за тэхнічных прычын мы не змаглі памясціць некалькі выяў да артыкула спадара Шышанава «Рэпін, філатэлія, Здраўнева». Робім гэта зараз і прыносім свае прабачэнні аўтару.







Праект «мемарыяльнага» штэмпеля 1994г.

# Беларускія каляндарыкі



1999 г.



2000 г.

# Наша пошта

З Берасця ад аднаго з нашых чытачоў я атрымаў вельмі цікавы і разам з тым не вельмі добразычлівы ліст. Аўтару гэтага ліста я адаслаў падрабязны адказ на ўсе яго пытанні. Тым не менш мушу праз газету яшчэ раз патлумачыць наступнае. Мы не з'яўляемся ворганам БНФ, бо Беларускі Народны Фронт, па вялікаму рахунку, ніколі не меў нават уласнай газеты, не кажучы ўжо аб фінансаванні нейкіх іншых. Але ў сядзібе БНФ – Менск, Варвашэні, 8 заўжды можна набыць апошнія нумары "Беларускага калекцыянера" і за гэтую падтрымку мы выказваем шчырую ўдзячнасць сябрам фронта. Цяпер моўнае пытанне. Аўтар ліста сцвярджае, што ў "Беларускага калекцыянера" ёсць будучыня толькі пры той ўмове, калі газета пяройдзе на расейскую мову, ці хаця б двухмоў'е. Шаноўныя калегі! Наша выданне, разлічана ў першую чаргу на беларускіх калекцыянераў. Я не ўяўляю сабе беларускага калекцыянера, які не ведае беларускай мовы. Мы нічога не маем супраць таго, каб расейскамоўныя калекцыянеры на Беларусі мелі свой ворган. Калі ласка, спадары, стварайце сваю газету ці часопіс, будзем супрацоўнічаць. Сапраўды, наклад нашай газеты вельмі маленькі і на «Беларускі калекцыянер" нельга падпісацца праз "Белсаюздрук". Але гэта не наша віна. Сёняшнія ўмовы не дазваляюць нам павялічыць наклад і распаўсюджваць праз "Белсаюздрук". Аўтар дасланага ліста звяртае нашу ўвагу на тое, што беларускія калекцыянеры на сёняшні дзень, па сутнасці, не маюць ніякіх каталогаў па калекцыянаванню. Няма каталогаў беларускіх бон, узнагарод, значкаў, латарэйных квіткоў, паштовак і інш. Ён прапануе нам выдаваць такія каталогі. Мы з задавальненнем рабілі б гэта, калі б мелі матэрыял па гэтых накірунках калекцыянавання. Ад сябе раблю прапанову калекцыянерам латарэйных квіткоў. Давайце абагульнім нашы звесткі пра беларускія латарэйныя квіткі і выдадзім каталог па гэтай тэме. Я лічу, што ў гэты каталог павінны быць уключаны звесткі пра латарэйныя квіткі, дабрачынныя квіткі, квіткі мясцовых латарэй і квіткі латарэй былога СССР, якія распаўсюджваліся і на тэрыторыі Беларусі. І каб справу па складанню каталога "Беларускія латарэйныя квіткі" распачаць ужо зараз, прапаную пазнаёміцца з дабрачыннымі квіткамі, якія ёсць у маёй калекцыі. Я разумею, што гэты збор далёка не поўны, таму прашу дасылаць дапаўненні і свае прапановы наконт выдання каталога беларускіх латарэйных квіткоў.

*Алесь Сярожкін*

# Беларускія дабрачынныя квіткі

1. Квіток памерам 70 х 70 мм. На чырвонай паперы чорны квадрат 55 х55 мм, у сярэдзіну якога ўпісаны яшчэ адзін квадрат 45 х 45 мм з надпісам "Все на помощь голодающему населению, политзаключенным и нх семьям в Западной Белоруссии и Польше". Паміж квадратамі надпіс "Гомельский окружной комитет "МОПР". Квіток аднабаковы.




2. Квіток памерам 70 х 90 мм. На чырвонай паперы простакутнік 55 х 70 мм, у сярэдзіне выява баявога карабля. Вышэй яго надпіс "Поддержим", а ніжэй карабля надпіс "свой красный флот". Пад простакутнікам унізе надпіс "Гублит № 1379, Гомель. Полеспечать".




3. Квіток памерам 65 х 150 мм фонда міласэрнасці і здароўя Беларускай ССР, вартасцю 1 рубель. Мае серыю і нумар. На вонкавым баку выява чатырох чалавек у інвалідных калясках. Адваротны бок квітка – гэта зварот да людзей аказаць дапамогу ўсім тым, каму яна патрэбна. Квіток зроблены ў карычневым колеры.







4. Квіток аналагічны нумару трэцяму, але вартасць яго 10 рублёў, і выкананы ён зялёным колерам.




5. Дабрачынны квіток 75 х 195 мм Беларускай Праваслаўнай Царквы Маскоўскага Патрыярхату, 1000 рублёў. Квіток выпушчаны Ашчадным банкам Рэспублікі Беларусь у 1994 годзе. Мае выяву Мікольскага сабору ў Магілёве.




6. Квіток бліскавічнай латарэі "Чырвонага крыжа" памерам 50 х 95 мм з выявамі амерыканскага і беларускага бел-чырвона-белага сцягоў. Шматкаляровы.



7. Квіток таварыства "Чырвонага крыжа" Віцебскай вобласці памерам 80 х 135 мм. У ніжнім левым куту квітка падаецца надпіс "Спасибо за чуткость к человеческим судьбам"



# Першая нацыянальная філатэлістычная выстава

У Магілеве з 29 лістапада па 6 снежня плануецца правядзенне "Першай нацыянальнай філатэлістычнай выставы". Падаем спіс удзельнікаў на 1.10. 1999г.

I. Афіцыйны клас

1. Выдавецкі цэнтр "Марка" РА "Белпошта".

II. Ганаровы клас

2. Коласаў Л.Л.

III. Пазаконкурсны клас

3. Старасценка В.В. Беларусь 1991-1999г.г.

IV. Конкурсны клас

а. Генеральныя і спецыялізаваныя калекцыі

4. Зарэмскі Ў.К.Наддрукоўкі ў ММК у Магілеўскай вобласці.

б. Тэматычныя калекцыі

5. Крывашэеў В.С. (г. Ліда) Беларусь

6. Крывашэеў В.С. (г. Ліда) Зоркі першай велічыні

7. Крывашэеў В.С. (г.Ліда) Капернік

8. Баршчоў (г.Смаленск ) Да зорак!

9. Варанцоў А.Ю. (Г.Смаленск) А.Дзюрэр і яго эпоха

10. Гураў В.А. (г. Смаленск ) Першы ў космасе

11. Клуб ДО (г. Смаленск ) Надзейны шчыт

12. Чыстоў Ю.Ф. (г. Смаленск ) Памяць вогненных гадоў

13. Качан В.В. (г. Менск ) Падарожжа ў свет мятлушак

14. Гушча Ф. ( г. Скідзель ) Непераможная і легендарная

15. Гушча О. ( г. Скідзель ) Пошта польская вялікаму паляку

16. Музыка І. ( г. Скідзель ) Масква алімпійская

17. Папоў В.П. ( г. Севастопаль ) У змаганнях з фашызмам

18. Амігуд В. Б. (г. Санкт- Пецербург) Шахматныя алімпіяды.

19. Грынберг М. А. (г. Санкт-Пецербург) Палявая пошта 1941-1945г.г.

20. Злацін Б.Э. (г. Санкт-Пецербург) Севастопаль горад-герой.

21. Нікіфараў Б.М. (г. Санкт-Пецербург) Савецкія арктычныя дрэйфуючыя станцыі.

22. Ткачоў Е. Н. (г. Санкт-Пецербург) Аб мастацтве партрэта.

23. Павук Б.О. (г.Чыкага) Беларуская пошта 1915-1922г.г.

V. Юнацкі клас.

24. Бунько Е. (г. Ліда) Савецкія месячнікі.

25. Марозаў М. (г. Магілёў) Беларускія аўтамабілі.

VI. Філакартыя.

26. Сцепчанкаў Л.Л. Смаленск на мяжы 19-20 ст.ст.

27. Філімонаў В. Магілёў на паштоўках.

28. Бурдзін Н. І. Беларускія мастакі на паштоўках.

VII. Максімафілія

29. Сцяпанчанка А. (г.Беласток) Экс-СССР 1944-1970 г.г.

30. Сцяпанчанка Е. (г.Беласток) Віды спорту.

31. Сцяпанчанка В. (г.Беласток) Свет жывёл і раслін.

32. Сцяпанчанка К. Жывапіс у музеях Расеі.

33. Гушча Ф. (г.Скідзель) Птушкі.

34. Музыка Е. (г.Скідзель) Картмаксімумы Беларусі.

VIII. Літаратурны клас.

35. Гураў В. Коцін Л. Смаленшчына ў філатэліі 1858-1996г.г.

36. Коласаў Л.Л. Артыкулы апошніх гадоў у газеце "Голас Радзімы".

37. Зарэмскі Ў. К. Артыкулы па гісторыі Беларускай пошты.

## Фашыстоўская ўлётка 1944г.

З калекцыі ўлётак В. Сцепаненкі г.Гомель







## Аб`явы

Да ведама філатэлістаў! У Менску па вул. Маскоўскай, 16 працуе крама "Філатэлія". Праезд метро да станцыі "Інстытут Культуры". Рэжым працы: панядзелак-субота 9:00-13.00, 13.30-20.00, нядзеля 9.00-13.00, 13.30-17.30

Шукаю паштовыя маркі БНР, пошту беларускага замежжа, лісты і маркі Сярэдняй Літвы, Генерал-губернатарства (Польшчу 1939 - 1941 г.г.) і іншае зьвязанае з поштай на Беларусі да канца 2-й сусветнай вайны. 230003 Гародня-3 п/с 110 Андрусь Мялешка (адкажу на ўсе лісты).

Ахвотныя атрымаць газэты №1 (16), №2 (17) за 1998г, №1 (18) за 1999г дашліце замову і грошы на адрас: Алесь Сярожкін, п/с 46, 211030, Ворша-9, Віцебская вобласць. Кошт кожнага нумара разам с дасылкай у межах Беларусі 0,1 $ па курсу Нацбанка РБ. У архіве рэдакцыі ёсць асобныя нумары мінулых гадоў выдання

Шаноўныя сябры! У Менску апошні нумар газэты «Беларускі калекцыянер» заўжды можна набыць у сядзібе Таварыства Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны: вул. Румянцава, 13 ці ў управе Беларускага Народнага Фронта: вул. Варвашэні, 8.

Аб'явы чытачоў па тэматыцы беларускага калекцыянаваньня друкуюцца задарма.

## Да ўвагі фалерыстаў




У Менску з'явіўся значык з выявай чорнага аптычнага прыцэлу і чырвоным надпісам на белым фоне: «Я снайпер». Гэты надпіс на значыку падаецца таксама і па-ангельску.

Газета
"Беларускі Калекцыянер"
Год заснавання 1990
Рэдактар: Алесь Сярожкін
Рэдакцыйная калегія:
Юрый Санько, Алег Грабяецкі.
Вёрстка: Зміцер Шарамет

Пры перадруку спасылацца на "Беларускі Калекцыянер".
Рукапісаў рэдакцыя не вяртае й не рэцэнзуе. Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі
Газета выдаецца з дапамогай Цэнтра Філоны Кміты.
Падпісана да друку 7.12.99г.

Адрас для допісаў:
Сярожкін А.М.
211030,
Орша-9, п/с 46, Беларусь.
Наклад 299 асобнікаў.